# Clio

№1 снежань 2000 год.

*ВЫДАНЬНЕ ГРАМАДСКАГА АБ'ЯДНАНЬНЯ"ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ"*


## Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў


## Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў


**Паважаны чытач!**

***Перад табою -- першы нумар нашага часопісу. Спадзяемся, што мы будзем і найдалей сустракацца з Вамі. Мы -- гэта грамадскае аб'яднаньне "Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў ", якое і стварае гэты часопіс. Просім Вас зьвярнуць увагу на тое, што гэты нумар часопісу з'яўляецца нейкім чынам ўнікальным. Справа ў тым, што гэта першы нумар выданьня грамадскага аб'яднаньня "Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў" на берасьцейшчыне, па другое - гэты часопіс дае кароткі агляд таго, што было зроблена таварыствам "Поспал", якое зараз зліпося з "ЗБС", а досьвіт і працу сваю яны перадалі "Задзіночаньню Студэнтаў".***

***Дзейнасць мы пачалі зусім нядаўна. Займаемся навуковай працай, правядзеньнем навуковых канферэнцый, праводзім палявыя даследваньні, краязнаўчыя экспедыцыі, імкнемся знайсці нешта цікавае ў архівах, займаемся абаронай правоў студэнтаў. У нашы задачы ўваходзіць папулярызацыя ведаў па гісторыі роднага краю, культуры і фарміраваньне нацыянальнай самасьвядомасці моладзі, наладжваньне летнікаў, наладжваем сувязі са студэнтамі іншых краін. Але перш за ўсё мы садзейнічаем задавальненню патрэб асобы ў самарэалізацыі і самаўдасканаленьні. Сябрамі нашай арганізацыі могуць стаць усе студэнты і аспіранты.***

**ПРЫХОДЗЬЦЕ! МЫ ЧАКАЕМ ВАС!**

**Грамадскае аб'яднаньне**
**"Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў"**

## “Чаму ж мне ня пець...”

Менавіта пад такім лозунгам выступілі студэнты БрДзУ і ЗБСаўцы супраць нечаканага павышэньня аплаты за навучаньне ў БрДзУ.

І сапраўды, такога адчаю, крыўды і, нават сьлёз, што ліліся з прыгожых вачэй дзяўчат-філолагаў, на сходзе, дзе спадар Міхальчук зачытваў загад рэктара аб павышэньні платы за навучаньне, ні я, ні мае сябры яшчэ ніколі не бачылі.

А абурацца было чаму. Хіба гэта не здзек, на носе сьвяты, праігнараваць якія, значыць перастаць лічыць сябе наогул членам грамадства.

Але беларусы былі і застаюцца і зараз самым талерантным народам ў сьвеце... Гэта і скарыстоўваюць прозныя хапугі ў выглядзе чыноўнікаў. Каго-каго, а абдзіраць студэнтаў, гэта ня ведаю як ужо нават назваць. Хаця чымі раней цябе пачнуць прывучаць да таго, што ты не чалавек, а быдла, што ты не маеш ніякіх правоў, тым больш высокая верагоднасць таго, што з сценаў ВНУ выйдзе патрэбны “вінцік”, а не сталая асоба здаровага грамадства.

Асаблівы ажыятаж наконт гэтай справы разгарнуўся на гістарычным факультэце. З самага пачатку сходу нервовасьць прарэктара, якая адразу кідалася ў вочы, павялічвалі мноства пытаньняў, на многія з якіх ніхто так і не пачуў грунтоўнага, ці хаця б зразумелага адказу.

Паважаныя студэнты, мы – студэнцкая арганізацыя, і мы змагаліся і будзем змагацца за свае правы, калі ты не можаш абараніць сябе сам, то прыходзь да нас, далучайся да студэнцкага руху.

**Сяржук Скулавец.**

## Езуіцкая сістэма адукацыі на Беларусі.

У 2-ой палове 16 ст. Рэфармацыя дакацілася і да земляў Бедарусі. Прадстаўнікі шляхты шматлікімі групоўкамі пераходзяць у кальвінізм, лютэранства і іншыя плыні пратэстантызму. Вялікае значэнне ў гэты час набывае пытанне аб тым, хто будзе кантраляваць сістэму адукацыі і праз яе здзяйсняць ідэалагічнае выхаванне моладзі.

У гэтай барацьбе каталіцкая царква стала цярпець паражэнне. Каталіцкія школы закрываюцца адна за адной. Каб пераламіць гэтую тэндэнцыю і павялічыць уплыў каталіцызму ў ВКЛ, у нашу краіну Папа Рымскі накіраваў эмісараў ордэну езуітаў.

Галоўным ідэолагам езуітаў стаў Петр Скарга. Пры яго актыўным удзеле на Беларусі пачалі працаваць езуіцкія калегіўмы.

У 1580 г. па загаду Стэфана Баторыя ў Полацку быў адкрыты першы калегіўм езуітаў. У 1585 г. князь Мікалай Хрыстафор Радзівіл Сіротка, сын Мікалая Чорнага, якога езуіты хрысцілі ў каталікі, аддаў ім каталіцкі касцёл, кальвінісцкі сабор і арыянскую малельню пад калегіўм і памесце Ліпск з вёскамі на "кармленне".

Аднак найбольшыя поспехі ў распаўсюджванні каталіцызму ордэн дасягнуў пры Жыгімонце III Вазе і яго сыне Уладзіславе. У 1600 г. па загаду Жыгімон-та III адкрыты калегіўм у Воршы, а праз некаторы час і ў Дынабургу. Потым калегіўмы езуітаў адкрываюць у 1616 г. Петр Пац у Мсціслаўле, у 1635 г. князь Альбрэхт Станіслаў Радзівіл у Пінску, у 1640 г. ваявода Аляксандр Карвін Ганеўскі ў Віцебску, у 1657 г. біскуп князь Геранім Сангушка ў Мінску і будучы кароль РП Станіслаў Ляшчынскі ў Слуцку.

Калегіўмы прадстаўлялі сабой ВНУ. Пры іх былі арганізаваны гімназіі з 5 класаў: 1) інфіма; 2) граматыка; 3) сінтаксіс; 4) паэтыка; 5) рыторыка.

У першых 3 класах асноўным прадметам была спачатку латынь, а потым грэцкая мова. Два вышейшыя класы называліся гуманіора. Гэта была свецкая школа. Духоўная жа школа рыхтавала будучых езуітаў. Гэта школа мела 7-гадовы курс: 3 гады навучання філасофіі і 4 – тэалогіі. Акрамя таго, езуіты ствараюць у 17-18 ст. ст. асобныя сярэднія вучэльні ля сваіх рэзідэнцый ля Бабруйску, ва Юрэвічах, у Слоніме і ў іншых месцах.

Такім чынам, уся вышэйшая і сярэдняя адукацыя на Беларусі аказалася пад уладай езуітаў. Школ іншых канфесій засталося вельмі мала.

Галоўнай задачай сістэмы адукацыі езуітаў было выхаванне шляхты ў духе каталіцызму. Іншыя саслоўі грамадства РП іх не інтарасавалі.

Да 1772 г. у ордэна налічвалася 6 калегіўмаў, шмат рэзідэнцый і вучэльняў. Колькасць езуітаў на Беларусі дасягнула 200 чалавек. У гэты час, 11 ліпеня 1773 г., Папа Рымскі Клімент XIV выдае брэве, якім забараніў дзейнасць ордэна і распусціў яго.

Аднак рэктар полацкага калегіўма і віце-правінцыял ордэну Станіслаў Чарневіч

 яшчэ ў 1772 г. прысягнуў Кацярыне II на вернасць і правёў у яе гонар месу. Імператрыца Расеі стала сумесна з князем Пацёмкіным пратэктарам езуітаў. Таму ордэн, нягледзячы на папскае брэве, працягнуў сваё існаванне на Беларусі.

Нягледзячы на забарону Папы, па загаду Кацярыны II у Полацку (2 лютага 1780 г.) і пазней у Дынабургу былі адкрыты езуіцкія навіцыяты, ці школы, якія рыхтавалі будучых езуітаў.

Узурпіраваўшы правы Папы, царыца назначае галоўнага кіраўніка ордэна, так званага генерала. Але яго пакуль назвалі віцэ-генералам.

Пасаду віцэ-генерала займалі Чарневіч, а пасля яго смерці Ляхновіч.

Новае ўзвышэнне ордэна адбылося з-за дзейнасці аўстрыяка-езуіта Грубера. Ён дабіўся ад Папы Пія VII узнаўлення ордэна. Расейскі ўрад афіцыйна прызнаў езуіцкую сістэму адукацыі. Езуіты намагаюцца падпарадкаваць сабе Віленскі ўніверсітэт, але няўдала. Аднак яны намагаюцца набыць статус універсітэта для сваіх калегіўмаў.

Такім чынам, 10 чэрвеня 1812 г. па загаду цара Аляксандра I на базе полацкага калегіўма была ўтворана езуіцкая акадэмія.

У Полацкай акадэміі налічвалася 3 факультэты:

1) лінгвістычны, дзе вывучалі мовы і славеснасць: польскую, рускую, нямецкую, французскую, грэцкую, латынь і таксама іўрыт;

2) свабодных навук, такіх як філасофія, паэтыка, рыторыка, логіка, маральная філасофія, метафізіка, агульная фізіка, вопытная і прыватная фізікі, хімія, чыстая і прыкладная матэматыка, грамадзянская і ваенная архітэктура, народнае, натуральнае і рымскае права, усеагульная і натуральная гісторыі;

3) багаслоўскі з выкладаннем маральнага багаслоўя, свяшчэннага пісання, кананічнага права, дагматаў і гісторыі царквы.

У Акадэмію маглі пастулаць людзі ўсіх званняў і канфесій. Па заканчэнні яе студэнт атрымліваў чын 14 класа (ніжэйшы чыноўнік у Расейскай Імперыі). Таксама ў гэтай ВНУ ўручалі вучоныя ступені. Акадэмія мела права без пошлін і падаткаў выпісваць кнігі з-за мяжы.

У Акадэміі было 600 студэнтаў і 39 настаўнікаў. Навучальны год цягнуўся з 5 верасня да 5 ліпеня. Тут была буйнейшая на Беларусі бібліятэка і адзін з лепшых музеяў краіны. Аднак праз 8 год цар Аляксандр I за антыдзяржаўныя дзеянні выслаў езуітаў з Імперыі і забараніў працаваць іх навучальным установам.

Ордэн езуітаў дзейнічаў на Беларусі 240 гадоў (з 1580 г. па 1820г.). Яны ўпершыню на Беларусі стварылі сістэму вышэйшай і сярэдняй адукацыі. Апасля выгнання езуітаў Беларусь амаль 2 гады не мела вучэльняў.

Аднак дзейнасць езуітаў мела і дрэнныя вынікі. Галоўнай мэтай іх сістэмы адукацыі было выхаванне "верных слугъ церкви латынскай". Таму яны ўпарта праводзілі на Беларускіх землях палітыку паланізацыі.

**Sadman (Бабко Максім)**

## Развитие сети школьного образования Брестчины в первый послевоенный год.

За годы войны система школьного образования в Белоруссии была практически полностью уничтожена. Было уничтожено 6 808 школьных зданий, разграблено и сожжено почти все школьное оборудование, весь фонд научной, методической и художественной литературы, учебно-наглядные пособия, учебники. Однако, несмотря на такое тяжелое положение, уже в 1944/45 учебном году по всей территории Белоруссии работала 10 241 школа, а в 1945/46 учебном году – 10 982, в том числе 9 015 начальных школ, 1 636 семилетних, 331 средняя[1]. Одной из характерных особенностей развития системы школьного образования в этот период являлось уменьшение количества семилетних и средних школ и увеличение количества начальных школ. Это было связано с тем, что за время войны ученики старших классов переросли, часть из них пошла работать в промышленность и сельское хозяйство, а часть была вывезена в Германию в качестве рабочей силы. Так, в сравнении с 1940/41 учебным годом, в 1945/46 учебном году рост начальных школ составил 114%, а семилетних и средних соответственно всего 62% и 34%. Тяжелое положение складывалось и со школьными помещениями: в 1945/46 учебном году по данным 11 областей (без Пинской) из 10 464 школ в собственных и приспособленных помещениях располагалось лишь 6 227 школ, 4 237

[1] Лыч Л., Новицкий У. "История культуры Белоруссии", Мн. 1996. с. 333

располагались в наемных помещениях и 57 в землянках[2].

Еще одной особенностью послевоенного восстановления школьной системы являлось закрытие школ, которые работали на языках национальных меньшинств. Так в 1944/45 учебном году на польском языке работало 114 школ, а уже в 1946/47 – только 22[3]. Тяжелое положение было и с обеспечением школ необходимым составом педагогических кадров. До войны в школах БССР работало 55 626 учителей, а в 1944/45 учебном году – только 32 822 учителя, количественно педсостав уменьшился на 22 804 человека. Были приняты необходимые меры и к началу 1946 года в школах БССР работало 45 332 учителя. Однако необходимо отметить низкий уровень общеобразовательной и педагогической подготовки педагогических кадров. В 1944/45 учебном году в школах Белоруссии работало 19,7 % учителей с высшим и незаконченным высшим образованием, а 23,8 % учителей не имели среднего образования. Серьезной преградой для развития школьного образования в послевоенные годы явилась деятельность силовых структур, которые начали репрессии среди учителей-поляков и среди тех учителей, которые в годы войны находились на оккупированной территории – а таких было много. Многие учителя были репрессированы или насильственно переселены – последнее касается поляков. Несмотря на увеличение количества учителей, их не хватало.

Принимались меры по образованию молодёжи, которая работала на производстве. Уже в 1945/46 учебном году в республике работало 73 школы рабочей молодёжи с 7 167 учениками и 366 школ сельской молодёжи со 114 115 учениками. К 1950/51 учебному году количество школ рабочей молодёжи возросло до 230 с контингентом учащихся 30 784 человека, школ сельской молодёжи до 714 с 23 401 учеником[4].

Из бюджета республики постоянно выделялись средства на развитие школьного образования, что позволяло увеличивать количество школ. Постепенно школьное образование охватывало всё больше и больше человек. С начала было введено всеобщее начальное образование, затем семилетнее, затем и среднее. Таким образом, школьное образование в после военный период, несмотря на тяжёлое материальное положение, постепенно восстанавливала свои довоенные позиции, а затем и превзошла их.

До 22 июня 1941г. в 14 районах области работали 784 школы, которые были обеспечены всем необходимым. За время оккупации и военных действий было уничтожено 281 школьное здание, все школьные библиотеки, школьное оборудование. Убытки, причинённые народному образованию фашистами, в Брестской области исчисляются суммой 49 990 118 рублей[5]. Из работавших до войны учителей осталось 15-20%. В 1944/45 учебном году по области должны были работать 784 школы. Однако 80 школ не были восстановлены в деревнях, которые были полностью уничтожены. В это количество входят и еврейские школы. К 1 октября 1944 г. было восстановлено 704 школы, которые должны были охватить 71 158 учащихся. Из общего количества школ было: начальных – 532, семилетних – 95 и средних – 7. По типам школ: белорусских начальных – 494, семилетних – 83, средних -- 4; русских начальных – 15, семилетних – 9, средних – 2; украинских начальных – 15, семилетних – 2, средних – 0; польских начальных – 8, семилетних – 1, средних – 1. Итого 634 школы[6]. В течении учебного года было закрыто 70 школ, частично из-за неповоротливости отделов народного образования, частично в связи с призывом учителей в армию. В конце учебного года во всех районах области работало 634 школы, в которых обучалось 65 092 ученика из 78 727 учтенных детей, которые должны были быть охвачены системой школьного образования. Таким образом, вне школы осталось 13 635 детей.

Педагогические кадры области были слабыми как по подготовке и образованию, так и по количеству. На 1 июня 1945 г. в области работало 1 564 учителя. В начальных классах работало 1 172 человека, из них 170 учителей имели образование за 5-6 классов. В 5-7 классах работало 354 учителя: с высшим образованием -- 31, с незаконченным высшим – 41, со средним – 282 человека. По стажу работы: от 1 до5 лет – 241 человек, 5-10 лет – 40, 10-15 лет – 241, 15-20 – 246, свыше 20 лет – 20 человек. В 8-10 классах работало 38 специалистов: с высшим образованием – 19, с незаконченным высшим – 12, со средним – 7 человек. По педагогическому стажу: от 1 до 5 лет – 9 человек, 5-10 лет – 12, 10-15

[2] Указ. соч., с. 334
[3] Там же, с. 333
[4] Там же, с.435
[5] Ф. 1-п, Оп. 2, Д. 211, с. 2
[6] Там же, с. 3

431 учитель, из них: по 1-4 классам – 1 212 человек, по 5-7 классам – 222, по 8-10 классам – 46 человек[8]. По национальному составу педагогические кадры в 1944/45 учебном году подразделялись следующим образом: 1 102 – белоруса, 182 – русских, 97 – украинцев и 183 человека – прочих национальностей[9].

Количество учебников и учебно-письменных принадлежностей в школах области было недостаточным. Учебниками всех типов по всем предметам школы были обеспечены в среднем на 15%, а по белорусскому языку и литературе учебники совершенно отсутствовали. Тетрадей было в среднем получено по 1-2 на каждого ученика в течение всего учебного года[10]. В конце 1944/45 учебного года началась подготовка к новому (1945/46) учебному году. Школы области получили: учебников по русскому языку – 20% необходимого количества, по истории (5-7 классы) – 30%, по истории для 3-4 классов не получили вообще. Географических карт было получено 30%, карандашей и перьев – по 1 на каждого ученика.

Материальное положение школ было тяжелым. Больше половины из работающих школ не имело типовых собственных помещений и находилось либо в приспособленных помещениях, либо в наемных, где не было никаких условий для работы. Учителя не были обеспечены квартирами, их снабжение продуктами и промтоварами происходило с большими перебоями и с опозданиями.

Несмотря на это работа в школах продолжалась. В школах области было организовано 54 комсомольские организации и 87 пионерских дружин. В комсомольских организациях насчитывалось 709 человек, а в пионерских отрядах и дружинах – 8 452 человека.

В трудных послевоенных условиях началось восстановление школьной системы

. **Джига В. И**

## Парады падарожніку ў Полацк.

Вы ведаеце, калі чалавека можна назваць гістарычна адукаваным ? Не толькі тады, калі ён прачытаў шмат кніг па гісторыі; не толькі тады, калі ў яго сапраўды ёсць добрыя веды. Перш за ўсё, на гістарычную самасвядомасць уплываюць падарожжы. Адно, калі, напрыклад, цябе апавядаюць пра прыгажосць Нясвіжскага замку ці ты глядзіш на яго праз фотаздымкі, і зусім іншае, калі ты на ўласныя вочы бачыш яго. Адно, калі цябе апавядаюць пра магутныя вежы Міра, і зусім іншае, калі ты сам маеш магчымасць дакрануцца да яго халоднага камення і адчуць подых гісторыі.

Наша беларуская зямля захоўвае шмат гістарычных помнікаў, старажытных архітэктурных збудаванняў, цэркваў і касцёлаў. Усё гэта – наша Спадчына, якую трэба захоўваць, якую трэба абараняць, якую трэба зберагчы дзеля нашых дзяцей. У нашай гісторыі багата цікавых падзей, магутных гарадоў, вялікіх дзяржаў. Гэта ўсё – наша мінулае, і забывацца на яго нельга. Адзін з такіх гарадоў, ад якога пачынаецца наша дзяржаўнасць, нашыя карані, наш гонар, -- Полацк, вялікі горад у мінулым, а зараз – ціхмяны і вельмі ўтульны паўночны беларускі гарадок. Горад, у якім нельга не пабываць, горад, якому нельга не пакланіцца, горад, зямлю якога нельга не пацалаваць, -- Полацк. Месца, дзе калісьці правіў Рагвалод з прыгажуняй-дачкой Рагнедай, дзе рабіў свае першыя крокі хлопчык Францішак – Юры, дзе вучоны Сімяон разважаў аб людзях і Боге, дзе нарадзілася ў княжацкай сям'і маленькая, Прадслава, якая стане потым святой Ефрасінней, месца, якое нарадзіла столькі слаўных людзей, не можа не быць святым. Тут кожны камень, кожная будыніна, кожнае дрэва, нават неба дыхаюць нейкаю своеасабліваю згадкаю пра мінулае.

І таму, шаноўны дружа, не губляй дарэмна часу, сядай спачатку на цягнік Брэст-Менск, потым – Менск-Полацк, і праз амаль суткі дарогі мы апынемся на вакзале ў Полацку. Перш за ўсё – запытайся ў мясцовых жыхароў, як прайсці да Сафійскага сабору. На табе спачатку глянуць непаразумела, а потым згадаюць: "А, да, Сафійскі!" І пачнуць распавядаць. Дачуўшы да канца вельмі падрабязнае тлумачэнне, ты рушыш галоўнай вуліцай проста да помніка Францыску Скарыне, па дарозе са здзіўленнем аглядаючы вельмі ціхмяны і ўтульны горад, не бачачы пакуль ніякіх гістарычных "цудаў". Але не спяшайся, дружа! Усё яшчэ наперадзе. Праз некалькі хвілінаў перад табой ужо будзе ляжаць зусім іншы Полацк, так званы Верхні замак. Яшчэ праз некаторы час мы са здзіўленнем спыніліся: што гэта за белы цуд, што ўзвышаецца там, наперадзе? Цуд, які, здаецца, лунае недзе ў аблоках? Так, гэта і будзе Сафійскі сабор, цудоўнае архітэктурнае стварэнне. Ты падымаешся да яго па лесвіцы, таму што сам сабор стаіць на земляным насыпу. Хутчэй спяшайся! Ты можаш яшчэ паспець. А

[8] Там же, с. 7-8
[9] Там же, с. 3
[10] Там же, с. 3-4

дванаццатай гадзіне дня там пачынаецца цудоўны арганны канцэрт. Потым, пачуўшы падрабязны аповяд экскурсавода пра гісторыю Сабора, ты выйдзеш на вуліцы Полацка з адчуваннем вялікага задавальнення. Але гэта яшчэ не ўсё. Табе абавязкова трэба зайсці ў Музей беларускага кнігадрукавання. Табе пакажуць там цудоўныя рэчы. З хваляваннем ты будзеш стаяць перад сцелажамі кніг 14-19 стст., дакранацца да іх цёплых карэшкаў рукамі. Ты будзеш глядзець на запісы тэкстаў, якія рабілі сваімі рукамі Ефрасіння Полацкая, Скарына і Будны. Ты падыдзеш да глобуса, выробленага ў 16 ст. і з цікавасцю будзеш аглядаць яго. Табе пакажуць сам працэс друкавання кніг у былыя стагоддзі і дадуць згоду сфатаграфавацца побач з воскавай постацю кнігапісца.

Але ведай, што наперадзе яшчэ самае галоўнае. Наперадзе тое, дзеля чаго трэба ехаць сюды, - Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр. Да яго трэба ехаць на аўтобусе праз мост над Заходняю Дзвіною. Потым трохі прайсці пешкі. І вось, нарэшце, ты на тэрыторыі манастыра. Не зважай на тое, што вакол шмат турыстычных аўтобусаў. Так, сюды вельмі шмат едзе людзей, ты не адзін такі. Перш за ўсё, табе трэба зайсці ў Спаскую царкву і пакланіцца мошчам святой Ефрасінні, не абыходзь сваёй увагай і Крыжаўздвіжэнскі сабор, які быў узведзены на тэрыторыі абіцелі ў 1897 годзе. Калі апынемся ў Полацку падчас нейкага вялікага рэлігійнага свята, абавязкова пабачыш копію Крыжа Святой Ефрасінні, які будзе несці святар наперадзе вялікай працэсіі людзей. Не звяртай увагі на міліцыянтаў, што будуць побач. Гэта неабходныя сродкі перадасцярогі, таму што Крыж мае вялікую не толькі духоўную, але і матэрыяльную каштоўнасць. Ну, а астатняе залежыць ад таго, колькі ў цябе засталося часу да цягніка. Калі мала – пойдзеш на вакзал, а ў іншым выпадку будзеш спакойна хадзіць па ўтульным завулкам і невялічкім вуліцам, заглядваючы па дарозе ў крамы, і разважаючы, дзе бы павячэраці. А калі на наступны дзень ты ўжо будзеш сядзець дома, гледзець тэлевізар і піць цёплую каву, то табе будзе здавацца, нібыта ніякага падарожжа наогул не было. Але гэта далёка не так. Павер, гэтую вандроўку ты запамятаеш на ўсё жыццё.

**Парады давала**

**Святлана Бялоцкая.**

## У Воўчыне.

Наша экспедыцыя пачалася нядзельнай раніцай, калі да ўсходу сонца заставалася амаль больш за паўгадзіны. На небе яшчэ свяціліся зоркі, калі з Брэста выехаў наш аўтобус. Шлях экспедыцыі ляжаў праз шматлікія вёскі на поўнач, у Камянецкі раён. Нашай мэтай была вядомая яшчэ са школы вёска Воўчын, дзе знайшоў свой апошні прытулак кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі.

Вёска Воўчын, вядомая з 16 ст., мае даволі багатую і цікавую гісторыю. Воўчын за свой доўгі век перажыў многіх уладальнікаў. Па чарзе змяніліся Солтаны, Гансеўскія, Слушкі, Сапегі, Флемінгі, Чартарыйскія, пакуль у 20-я гады 18-га ст. Канстанцыя Чартарыйская не выйшла замуж за Станіслава Панятоўскага (бацьку будучага караля). Разам з яе пасагам перайшоў і Воўчын.

Пасля паўтарагадзіннай дарогі мы, чацвёра студэнтаў БрДзУ, нарэшце трапілі ў Воўчын. На першы позірк, вёска як вёска: хаты, аўтобусны прыпынак, крама каля яго і віднеючаяся непадалёку царква. Усё як трэба. Але адразу трапіў у вочы незвычайны двухпавярховы будынак, складзены з буйных валуноў. Як высветлілася потым, гэта была яўрэйская крама, зараз ператвораная ў склад .

Запытаўшыся ў першай сустрэтай бабулі пра дарогу да вядомых воўчынскіх помнікаў, мы пакрочылі наперад.

Першым аб'ектам нашага даследвання стаў Троіцкі касцёл. Ён быў пабудаваны ў 1733-1734 гг. замест старога драўлянага. У гэтым жа касцёле і быў ахрышчаны будучы кароль, які нарадзіўся у 1733 годзе. Гэты помнік позняга барока, збудаваны на італьянскі ўзор, у плане выглядае як васьмікутнік. У цэнтры над купалам узвышаецца невялікая званіца з гадзіннікам, а чатыры франтоны былі ўпрыгожаны скульптурамі чатырох евангелістаў. У другой палове 19-га ст. касцёлу давялося пабываць царквой, а ў 1918 годзе ён быў зноў вернуты каталікам.

Але нас напаткала расчараванне: вельмі ж адрозніваецца фотаздымак касцёла са Зводу помнікаў Брэсцкай вобласці ад яго сучаснага выгляду. Цяпер, нібыта цагляны прывід з абваліўшымся дахам, узвышаецца ён сярод пусткі двара. І адзіная захаваўшаяся скульптура евангеліста – сведак даўняй велічы – са смуткам у вачах назірае за сённяшнім часам. Унутры – такая ж заросшая травой пустка, упрыгожаная абломкамі кафлі і каменных скульптур астатніх трох евангелістаў. Аднак на сценах захаваліся ляпныя дэталі дэкору і пілястры карынфскага ордэру. У адным куце за жалезнымі кратамі знаходзіцца крыпта, дзе калісці стаяла

труна Станіслава Аўгуста Панятоўскага, прывезеная сюды ўлетку 1933 года.

У такім стане касцёл апынуўся пасля Другой Сусветнай вайны, пахванне было разбурана, сам будынак выкарыстоўваўся як склад хімічных угнаенняў. Мясцовыя жыхары памятаюць, як у 1970 (па данных "Свода" -- 1979 ) годзе ў час дня абваліўся дах. Пра былое пахаванне ў жыхароў не захавалася адносна цэлых успамінаў. Адзін калгаснік расказаў, што труна былога караля была зроблена са срэбра, і таму яе, распіліўшы, продалі. Таксама мы пачулі пра срэбны бачок для вады, што знаходзіўся ў касцёле, але яго хтосьці вынес, калі касцёл зачынілі. А нейкая бабуля прыгадала, як яна маленькай дзяўчынкаю хадзіла ў касцёл і захаплялася яго ўнутранай прыгажосцю, але гэта было пры паляках.

У 1989 годзе ў Воўчыне прайшлі сумесныя беларуска-польскія археалагічныя даследванні касцёла. Знаходкі, у тым ліку фрагменты дошак ад дзвюх трунаў і дробныя фрагменты костак, былі вывезеныя ў Польшчу. Прычым беларускія чыноўнікі і прэса ніякай цікавасці да гэтай падзеі не выказалі. Палякам нават была аказана дапамога з вывазам знаходак без усведамлення таго, што яны таксама прыналежаць гісторыі беларускага народа.

На падворку касцёла былі знойдзены і дзве непрыкметныя шэрыя магільныя пліты. На адной віднеўся надпіс, прысвечаны нейкай Альжбэце, а на другой - выбіты надпіс, які сведчыў аб былым каханні, якое прыпыніў няўмольны час:
Боже Правый!

Соедини опять насъ тамъ
Где смерть не разлучаетъ,
Где места нетъ страстямъ.

Далей мы накіраваліся да хутара Гремячы, дзе знаходзіцца сядзіба 19 ст. Але перад гэтым было вырашана наведацца да хутара, заснованнага тут у 1926 годзе Кухальскім В.С., палякам па паходжанні. Нас сустрэла старая жанчына, дачка Кухальскага. Яна прыгадала тыя часы, калі Заходняя Беларусь была далучана да Польшчы. "Тут навокал былі толькі польскія хутары",--казала яна. Прыпомніліся ёй і ваенныя часы: як тут праходзілі нямецкія войскі, як яны пашкадавалі польскія хутары, але амаль не пабілі ўсіх жыхароў Воўчына, як на яе агародзе ўзарваліся 3 снарады, калі бамбілі мост. Знайшоўся ў яе і фотаздымак Троіцкага касцёла з газеты, яшчэ цэлага.

І вось, нарэшце, мы трапілі ў сядзібу. Углядаючыся ў паўночны пасад каменнага палаца, нельга было не захапіцца прыгожым чатырохкалонным порцікам, але, нажаль, усе вокны і дзверы былі шчыльна забіты дошкамі. Абышоўшы будынак, мы ўсё ж знайшлі дзірку ў дошках паўднёвага ўваходу. Магчыма, гэта "мясцовыя турысты" зрабілі сваю "экскурсію"у пакінуты палац. Мы таксама скарысталіся гэтым пралазам і апынуліся ў прасторным пакоі, у кутах якога знаходзіліся дзве разбураныя печы. Пакояў было шмат, часу – таксама, і мы паспелі даследваць увесь будынак зверху донізу. У адным з пакояў у кутку скромна прымасцілася ажурная вінтавая лесвіца з чыгуна. Цудоўная работа ! А на гары сярод розных папер была знойдзена ўрачыстая клятва прыймання ў піянеры – сведчанне таго, што тут у савецкія часы змяшчалася школа ці, як гавораць мясцовыя жыхары, лагер.

Але самай важнай "знаходкай" была Сойка Антаніна Раманаўна, якая нарадзілася ў далёкім 1904 годзе. Няшмат такіх людзей можна знайсці ў наш час. Ды і яе старую цагляную хату без дапамогі цяжка было б знайсці. Гэта 95-ці гадовая жанчына памятае далёкія часы Першай Сусветнай вайны, польскія ўлады, Другую Сусветную... Цяжкая доля напаткала яе сям"ю. У 1914 годзе жыхароў вёскі прымусілі выехаць, а сам Воўчын быў спалены. Сям'я, церпячы вялікія нягоды і цяжкасці, на цягніках дабралася праз шэраг гарадоў у сярэднеазіяцкі горад Самарканд, дзе і сустрэла чуткі пра рэвалюцыю. Пражыўшы потым 6 гадоў у Харкаве, яны вярнуліся на папялішча роднай хаты. Гэта былі 20-я годы, калі тут усталявалася польская ўлада. У памяці засталіся непрыемныя ўспаміны пра цяжкасці адбудовы, галодныя часы і дрэнныя адносіны палякаў да беларусаў: палякі не жадалі прыймаць на працу людзей няпольскага паходжання. Але да савецкіх часоў у яе засталіся добрыя адносіны, нават таварыша Сталіна памянула добрым словам, а на развітанне спыталася: "Ці рускія вы ?"...

**Гайдучык В.Н.**

## Вёска Войская.

Канечным пунктам нашай другой краязнаўчай паездкі па Камянецкаму раёну была Свята-Троіцкая царква, што знаходзіцца ў вёсцы Войская.

Утрох мы селі ў аўтобус і праз 10 хвілін ён рушыў. У летуценных размовах аб Старым Брэсце, праблемах сучаснасці і страчанай прыгажосці гарадоў праляцеў

час і мы весела выскачылі на прыпынку ў цэнтры вёскі.

Царкву заўважылі адразу. Яе цёмны будынак велічна ўзвышаўся на фоне вясковых хат. Войская Свята-Троіцкая царква была пабудавана ў 1751-1775 гг. і ўяўляла сабою невялікі, драўляны будынак. Напачатку ўніяцкая, прыкладна ў 30-40-я гг. 20–га стагоддзя яна была “перададзена” пра- васлаўным. Паводле слоў святара, на гэтым месцы яшчэ раней стаяла царква. Аб гэтым ускосна сведчыць Евангелле 1559 г., якое і па сённяшні дзень выкарыстоўваецца ў нядзельных набажэнствах. “Царква, -- як кажа айцец,- вось ужо больш за 200 гадоў не перабудоўвалася, падлога ля алтару дагэтуль прыбіта драўлянымі цвікамі.” Унутры царквы знаходзіцца вельмі багата ўпрыгожаныя царскія вароты і шмат абразоў, частка з якіх перавезены з суседняй царквы (вёскі Лісоўшчана) з прычыны пажару.

Перад уваходам у храм стаіць двух’ярусная званіца-брама, першы ярус якой з’яўляецца мураваным і мае 3 арачныя праёмы; другі -- драўляны, з невялічкаю галоўкаю і металічным крыжом на ёй. Вакол царквы месцяцца могілкі, дзе пахаваны мясцовыя святары і іх сем’і. Цікава, што над некаторымі магіламі на крыжах -- невялікія скульптуркі Ісуса. Паездка аказалася вельмі змястоўнай. Зрабіўшы некалькі фотаздымкаў, мы пакінулі тэрыторыю царквы.

**Сяргей Прылуцкі.**

## Пярун.

Славяне мелі прадстаўленне пра адзінага бога і адрознівалі яго ад мноства больш дробных багоў. Гэтыя дробныя богі паходзілі ад яго і былі ягоным працягам. І сярод іх на апошнім этапе існавання язычніцтва выдзяляўся адзін, гаспадар грому і маланкі Пярун. Пярун з’яўляўся светаносным пачаткам. Ягоная выява была з розных матэрыялаў – галава з срэбра, вушы і вусы зроблены з золата, а самое тулава – з дрэва[11]. У руках ён трымаў нешта падобнае да маланкі, альбо два вялікіх жорнавы, якія ён цёр адзін аб аднаго[i12]. Пярун забіваў, пасылаючы свае вогненныя стрэлы. Асколкі жорнаваў ляцяць на зямлю і трапляюць у таго, хто прагневіў бога. У Пяруна была жонка. Паходжанне яе не зусім вядома. Імя яе – Грамавіца, апякунка дамашняга ачагу, цяжарных. Яна дапамагала пры родах. Найлепшая яе пара года – лета. Яна дарue ураджай. Другім яе імем было Цёця \Цётка, Тітка\. Любіла з’яўляцца сярод людзей у выглядзе прыгожай жанчыны сярэдніх гадоў, а таксама любіла, калі яе пазнавалі. Дачку іх звалі Магура \Пяруніца\. Яна падбадзёрвала воінаў на полі боя. Калі ж воін паміраў, то Магура падлятала да яго, авявала сваімі крыламі, цалавала яго, давала выпіць з чашы, падобнай да чэрапа. І той, хто вып’е жывой вады з гэтае чашы, адправіцца ў Вырай, дзе будзе вечна памятаць пацалунак Магуры.

Пярун з’яўляўся ўладальнікам стыхій. У вясновай маланке славяне бачылі крыніцу жыцця, пачатак сусветнага тварэння. Пярун ліў абільныя дажджы, абуджаючы да жыцця прыроду. Днём Пяруна лічылася 20 ліпеня[ii]. Абранне ахвяр і падрыхтоўка да гэтага свята пачыналася за 8 дзён – 12 ліпеня. Пярун таксама быў богам вайны і міру, таму ў ног ягонага ідала клалі зброю і кляліся пры заключэнні розных дамоў.

Першынство Пяруна было ўзаконена рэформамі Уладзіміра[13]. Культ Перуна быў вельмі маладым і нарадзіўся адначасова з ваеннай дэмакратыяй[14].На капішчы Кіева ягоны ідал займаў цэнтральнае месца і ўзвышаўся над статуямі астатніх 5-ці ідалаў.

**Сяржук Мартынюк.**

## Што тоіць у сабе наша зямля.

Сенсацыйнай можна лічыць знаходку рымскіх манет у малечскай зямлі 25 мая 1993г. Шэраг рэспубліканскіх сродкаў масавай інфармацыі гэты факт тлумачаць так: «Нічога падобнага на тэрыторыі Беларусі ніхто яшчэ не знаходзіў».

А дастаткова было зазірнуць у папулярнае выданне «Аб чым распавядаюць манеты» В. Н. Рабцэвіча і ў нумізматычны

[11] Грушко Е., Медведев Ю. Словарь славянской мифологии. Н. Новгород, 1996, сс. 313-315.

[12] Богданович А. Е. Пережитки древняго міросозерцания у белоруссовъ. Гродна, 1895, сс.75-76.

[13] Тамсама, с.16.

14Прокофьев В. Религия восточных славян. \\ Исторический журнал. 1940. №8, с.79; Рыбаков Б.А., указ. праца, сс.10-11.

каталог, каб пераканацца, што і раней людзі знаходзілі рымскія манеты на тэрыторыі Беларусі. Усяго было знойдзена, на думку аўтара гэтай кнігі, каля 40 скарбаў у агульнай колькасці налічваючых больш за 2000 антычных манет.

Але скарб рымскіх манет, знойдзеных у кар'еры камбіната селікатных вырабаў / паміж вёскамі Кабакі і Малеч / мае свае асаблівасці.

Доктар гістарычных навук, прафесар, заведуючы археалагічным аб'яднаннем Інстытута гісторыі Акадэміі навук РБ Леанід Давыдавіч Побаль, даведаўшыся аб знойдзеным скарбе, адразу прыехаў у Бярозаўскі раён. Вучоны-археолаг, на ліку якога не адна археалагічная экспедыцыя і мноства розных, амаль дэтэктыўных гісторый аб знойдзеных скарбах, пошуках згінуўшых нумізматычных каштоўнасцей, дасканала даследаваў месца, дзе быў знойдзены скарб і запісаў паказанні знайшоўшага манеты жыхара вёскі Малеч Васіля Прыгодзіча.

Гэты скарб быў знойдзены Васілём выпадкова. Вада вымыла вапну, з-пад якой і ўбачыў свет гэты скарб. Міма яго праходзіў Васіль, якога зацікавіў нейкі бляск. Ён прыгледзеўся і ўбачыў збан з манетамі. Вядома, што роля выпадкаў у знаходжанні скарбаў вельмі вялікая. Часам выхад старажытнага скарба на сонечны свет адбываецца і пры незвычайных абставінах, як у вышэй апісаным выпадку. Можна прывесці некалькі такіх прыкладаў.

У 1845 г. на ўскрайку Барысава была заўважана птушка, насіўшая нейкія бліскучыя прадметы да сябе ў гняздо. У ім былі знойдзены літоўскія, польскія, прускія і рускія манеты 16-га стагоддзя. Відавочна, дзесці непадалёку быў выпаханы скарб, які не быў заўважаны людзьмі. Птушка, прываблeная бляскам срэбра, пачала пераносіць яго ў сваё жыллё.

У 1888 г. каля вёскі Навасёлкі Баранавічскага раёна крот выкінуў на паверхню зямлі рымскія манеты 1-2 стагоддзяў н. э.

У 1921 г. на ўскраіне Слуцка свіння вывярнула з-пад зямлі збан, напоўнены лівонскімі і нідэрландскімі манетамі 17-га стагоддзя. І такі выпадак не адзіны.

У 1964 г. размытая ліўнем лясная дарога ў пасёлку Касалякі Гомельскай вобласці аказалася засланай усходнімі манетамі 9-га стагоддзя.

Такіх цікавых выпадкаў "знаходжання" скарбаў можна назваць вельмі многа. На думку Л. Д. Побаля, там, дзе цяпер кар'ер, было старажытнае паселішча. Такіх паселішчаў з дапісьмовага перыяду вядома на тэрыторыі Беларусі каля 200. У тыя часы тут недалёка было возера, ці палескае мора, бо людзі, як правіла, сяліліся ў сваёй большасці каля крыніц вады. Але з часам возера заілілась і высахла, а людзі перайшлі жыць бліжэй да іншых крыніц вады, а пра скарб забылі.

Прафесар Л.Д. Побаль выказаў меркаванне, што гэты скарб рымскіх манет быў своеасаблівай захоўваючай касай. Кандыдат гістарычных навук В. Н. Рабцэвіч, вучоны-нумізмат, выказаў думку, што рымскія манеты захоўвалі для таго, каб у далейшым выкарыстаць на ювелірныя вырабы. Але ў практыцы археалогіі Беларусі падзелак са срэбра не знойдзена, між тым як вядомы дакладныя крыніцы з часоў старажытнай Русі аб скарбах- захоўваннях для таго, каб купіць скот, зерне жыхарамі адной абшчыны, якая валодала грашыма.

У Беларусі за апошнія дзвесце гадоў знойдзена каля 70 скарбаў з манетамі розных перыядаў . Самы вялікі з іх знойдзены каля горада Клімавічы і налічвае 1815 манет. Бярозаўскі скарб -- другі па колькасці манет /408 штук/. Важнай каштоўнасцю бярозаўскага скарба з'яўляецца тое, што збан, у якім знаходзіліся манеты, зроблены рукамі мясцовага ганчара.

Л.Д. Побаль у адносінах да скарба гаварыў, што для яго кожная манета не мае цаны -- настолькі вялізарная нумізматычная каштоўнасць усяго скарба.

Далейшы лёс скарба такі. 31 мая была створана камісія з кіраўніка Дзяржаўнай інспекцыі РБ па ахове культурна-гістарычнай спадчыны Д. С. Бубноўскага, яго намесніка Краў- цэвіча, доктара Л. Д. Побаля, кандыдата гістарычных навук В. Н. Рабцэвіча, якая зрабіла першы агляд знойдзенага скарба рымскіх манет. Было выказана меркаванне, што захаванне скарбу адбылося ў 2-3 стагоддзях н.э., манеты адносяцца да 2-га стагоддзя н.э.

Такіх скарбаў на Беларусі яшчэ вельмі і вельмі шмат. Гэтыя старажытныя рэчы -- нацыянальнае багацце, яны павінны захоўвацца ў поўным комплексе, вывучацца спецыялістамі і ўводзіцца ў навуковы абарот.

**Быцкевіч А. В.**

## Кур'ёзы юстыцыі.

У XVII ст. суд прыгаварыў пана Ляша (які стаў сінонімам шляхецкага буйства) да "банацыі" (выгнання за межы РП) 28 разоў. Ляш усе 28 прыгавораў прычапіў да свайго бекеша і так хадзіў. Яшчэ ён усім гаварыў, што на падкладцы бекеша засталося месца для яшчэ аднаго прыгавора.

***

Суд прыгаварыў пана Патоцкага да штрафу "за бесчинства". У адказ Патоцкі з гайдукамі ўварваўся ў зал суда. Загадаў гайдукам спусціць штаны з суддзей і высеч. І высеклі іх на пергаменце з толькі што запісаным прыгаворам.

## Гульні шляхецкія.

Пан Патоцкі любіў гуляць у "ку-ку". Сялянскія жанчыны лезлі на дрэвы і кукавалі. Пан браў ружжо з мелкай дроббю і пытаўся папасць жанчынам у ягадзіцы.

***

Кацярынінскі памешчык Струйскі любіў паляванне. Калі да яго прыязджалі госці, Струйскі браў пісталеты з кулямі і з гасцямі ішоў у вялікі зал. Усім удзельнікам гульні завязвалі вочы. Потым яны стралялі па сялянам, якіх заганялі ў зал. Пераможцам лічыўся той, хто пападаў куляй у селяніна.

**Бабко М.В.**

## Зьбігнеў Гэрбэрт

Пераклад Прылуцкага С.

## Душа Пана Cogito

Раней
ведаем з гісторыі
пакідала цела
калі змаўкала сэрца

з апошнім дыханьнем
ціха сыходзіла
на нябесныя паплавы

душа Пана Cogito
паводзіць сябе інакш
пры жыцьці пакідае цела
маўклівым сьценнем

месяцамі гадамі вандруе
па іншых кантынэнтах
па-за межамі Пана Cogito

цяжка яе адшукаць
няма ад яе вестак
пазьбягае кантактаў
ня піша лістоў

калі вернецца невядома
мо сышла назаўжды

Пан Cogito спрабуе пазбыцца
зайздросных інстынктаў

аб душы думае добра
аб душы думае тонка

трэба напэўна жыць
і ў іншых целах таксама

але душ заўсёды замала
не хапае на ўсіх

Пан Cogito скараецца лёсу
іншага выйсьця ня мае

спрабуе нават казаць
-- мая душа мая –

аб душы думае лёгка
аб душы думае тонка

калі ж зьяўляецца
нечакана
не вітае яе словамі
як добра што ты вярнулася

скасавурыўшы вочы паглядае
як сядае перад люстрам
і расчэсвае свае космы
зблытаныя і сівыя

## Зь вяршыні сходаў

Бясспрэчна
тым што стаяць на вяршыні сходаў
вядома
вядома ўсё
іншая справа мы
прыбіральшчыкі пляцаў
закладнікі лепшае долі
каторым тыя з вяршыні сходаў
паказваюцца рэдка
заўсёды з пальцамі на вуснах
мы цярплівыя
жонкі нашы цыруюць старую
кашулю

размаўляем пра кошты ў крамах
пра футбол пра забойствы жывёлаў
у суботу ж адхіляем голаў назад
і пьем
мы ня з тых
што сьціскаюць кулакі
грукацяць ланцугамі
гавораць і пытаюць
заклікаюць да бунту
разгарачаныя
нястрымна гавораць і пытаюць
вось іхняя казка –
кінемся да сходаў
і здабудзем іх штурмам
дадолу пакоцяцца галовы тых
што стаялі наверсе
і ўбачым нарэшце
што відно з тых вышыняў
якую прышласьць
які прасьцяг
ня прагнем бачыць
падзення галоваў
ведаем як хутка адрастаюць яны
але заўжды застаецца наверсе
адзін альбо трое
унізе ж чорна ад метлаў і лапат
часам уяўляем
што гэтыя з вяршыні сходаў
спусьцяцца ніжэй
да нас
калі жуем над газэтаю хлеб
і прамовяць
-- а цяпер пагаворым
як чалавек з чалавекам
няпраўда ў тым што гарланяць
афішы
праўду носім у стуленых вуснах
жахліваю есьць і надта цяжкою
таму саматугам цягаем яе
нешчасліўцы
з радасьцяй засталіся б тут
гэта канешне мары
могуць спраўдзіцца
таму і далей
даглядаць будзем
наш кавалак зямлі
наш кавалак каменя
са сьвежаю галавой
цыгарэтай за вухам
і бяз кроплі надзеі ў сэрцы

## Абрамчук Н.

***

Азірніся назад, чалавек,
Можа знойдзеш памылку сваю?
Ці задумваўся ты ў свой век,
Як прайшоў ты дарогу сваю?

Непрыкметна, без жалю, без болю
Ты атруціў радную зямлю,
Дарагую, любімую рэчку,
А таксама бярозку-сястру.

Перашкодзіў жывёле і птушке
Ты жыццё непатрэбнай стральбой,
Абыйшоўшы ту сцежку-дарожку,
Што звязала прыроду з табой.

Азірніся, падумай хвіліну,
Што пакінуў ты за сабой?...
Толькі смутак...
жальбу...
пакуты...
Родных вёсачак і гарадоў.
1999

***

Нябесныя вочы блукалі ў ночы,
І месяц ласкава глядзеў,
Неонавым светам свяцілася лісце,
І ціха спяваў салавей.

Спяваў ён пра родныя рэчкі, азёры,
Пра светлыя, ясныя дні.
Аб тым, як марыць квітнець прырода,
Аб тым, як радзіма жыве.

Узнёс сваю песню ў зорнае неба.
І ўсё абудзілась як днём.
Ад песні пакутнай, ад песні бліскучай
Прачнуліся сэрцы палёў.

І разам яны гэту песню спявалі,
Каб слухаў яе ўвесь мір,
Каб душы людзей у глушчары не гублялісь
Усялякіх старшэнных падзей.

Калі б з гэтай песняй прачнуліся людзі,
Ад чорнага дрэннага сну.
Тады толькі б знішчылася трывога
За старонку радную сваю.
2000

***

Незалежнасць як воздух патрэбна
Усім істотам, што ёсць на зямлі.
Гэта, быццам, старое павер'е ,
Што закладзена нам на вякі.

Ці няўжо адракаліся продкі
Ад усяго, што спрыяла бы ім;
Развіцця сваёй роднай старонкі,
Ці няўжо адракалісь яны?

Ці няўжо не змагаўся наш прадзед
Разам з дзедам за праўду сваю,
Сваю мову, сваю сумленнасць,
І за будучыню сваю.

Успомнім усе гістарычныя з'явы,
Калі наш беларус не маўчаў;
За народа свайго незалежнасць
Кулямёт у руках ён трымаў.

Усё ён знёс: і жаль, і пакуты,

Страту маці і родных сясцёр,
І з любоўю вялікай к свабодзе,
Абароніў ён Белую Русь.

Навучыцца любіць усім патрэбна
Прыгажэйшы куток – Беларусь,
Як любілі яе нашы продкі,
Як любіў яе той Беларус!
2000

## ВОЛК .

Свора гончих собак и борзых
Нагоняла по насту матёрого волка,
Но боялись: смертельный мотив
Делал сильным -- ушёл бы от них,
Оторвался, рванул под обрыв,
Но ведь правда всегда у других:
Были люди и были двустволки.

А потом была пьянка, и плескалась в стаканах водка,
И мужик с захмелевшим потухшим взглядом
Заливал, что такого же волка
Завалил как-то раз он утиным зарядом .
Девочка там вместе с ними сидела
(Взял, наверное, отец, чтоб дитя не обидеть),
Волчью лапу своей рукавичкой несмело
Гладила, то и дело, на корточках сидя.
И холодного волка за ухо тряся,
Ком сбивая прилипшего снега,
Вдруг сказала: "Какие глаза!
В них такое красивое небо!"

***

А небо всё точно такое же,
Как если…
Е. Летов

## Снова волк: расплата.

На ходу разметая багряные листья,
По осеннему лесу бежал вдоль реки,
А далеко и близко размашистой рысью
На храпящих гнедых нагоняли стрелки.
А бежать нету сил и уж ноги устали:
Ведь он стар -- притупились клыки,
Тридцать метров за ним, оторвавшись от стаи,
Две борзые летели, вывалив языки.
Вот и снова повтор бесконечной истории:
Снова кони, орава бухая,
И копыта багряный узор расстроили,
Да ещё на гнедом женщина молодая.
Что ей утки и зайцы, лисицы? --
К крови большей инстинкт древний кличет,
Ноги лошади быстрой мелькают, как спицы,
Ближе всех она к псам, настигли добычу.
И взлетело ружьё, и пристала щека,
Горячая и потная к прикладу
Вот убийцы рука и волка глаза,
В них смотреть никогда не надо.

И тут дернулся ствол и пуля ушла
В небо, вверх, не туда куда надо,
И качнулась в седле…опустилась рука…
Перед выплывшим с детства, знакомым тем взглядом.

Ну а волка убили – какой разговор! --
И окрасила морду кровавая пена,
Молодой и красивый богач-ухажёр
Укорял её нежно: «Ну что ж ты, Елена?»

А Елена молчала, и грезились ей
Тот костёр, разговор, ломти чёрного хлеба
И живые глаза, каких нет у людей,
И ей стыдно и страшно смотреть
В их такое красивое небо.
30.05.98.

**Ковалевский Андрей.**



Надрукавана пры дапамозе Цэнтра "Вежа"